# СЛОВА РЭДАКТАРА

Першая кніга паэта... Колькі надзей і спадзяванняў у яе аўтара. Колькі трапяткіх падзей і адна з іх – прэзентацыя, сустрэча з будучымі чытачамі, аматарамі літаратуры...

Стасі Кацюргіной пашчасціла больш за другіх. У яе амаль у адзін і той жа час выходзяць дзве кнігі ў розных выдавецтвах сталіцы. Адна ў серыі “Аз”, выдавецтва “Кнігазбор”, другая – ў нашай “Бібліятэчцы...” Пашчасціла і школе-студыі “Малады літаратар” – пісьменнікі праводзяць тут свае майстар-класы,чытаюць лекцыі, разбіраюць творы маладых.

З’явіліся першыя публікацыі ў часопісах і газетах, і нават за межамі краіны: у Расіі, на Украіне. Па гэтых падборках і заўважылі Анастасію Кацюргіну. (Аўтару да спадобы – Стася). Адзначылі адразу пачуццёвую плынь у вершах, лірычнасць і вобразнасць: “ у вусені вагонаў”, “мройны прыцемак”, “снег пярын на ложку”, “ вуснамі разалью пяшчоту” і г. д. Па словах лаўрэата дзяржаўнай прэміі Міхася Башлакова – гэта “самыя пяшчотныя і пявучыя вершы” з шэрагу маладых, “сапраўдная паэзія”. Хаця ніводны паэт яшчэ не адказаў дакладна, што ж такое паэзія, ды яшчэ сапраўдная.

Таму не будзем забягаць наперад, хваліць занадта маладога аўтара. Ад яго самога залежыць – утрымаецца ён на гэтай сваёй першай вяршыне і памкнецца далей, ці сыйдзе з дарогі расчараваны і спустошаны.

На жаль, ні песенькі, ні птушкі...
Як плакала малая ў сне.
Крылом надзеі Папялушка,
Кранаецца ўначы мяне.

Цалуе ў лоб, бярэ за шчокі.
Дае той вобраз берагчы…

Калі пападаюцца такія вось радкі, то верыцца – пісаць будзе, і тэматыка пашырыцца з цягам часу. А пакуль што шчымлівыя, шчырыя, узнёслыя вершы пра каханне. Дзе-нідзе прарываюцца трапныя высновы, прабіваецца праз пачуццё думка, глыбокі роздум:

У люстэрку кахання зямнога
(Ёсць у крокаў свая далячынь)
Я убачу маўклівага Бога,
Бо самоту нашу на плячы!
Выпадкова сурочу я ўпотай
Лік святы, ад якога бягу!
Напаю абразок адзінотай,
А сябе наталіць не магу!

Гэта і дае падставу спадзявацца, што пранікнёныя радкі аб каханні пакінуць след у нашых сэрцах, дапамогуць аўтару знайсці сваіх чытачоў.

**Ніна Шклярава**,
Член СП Беларусі,
кіраўнік школы “Малады літаратар”,
УА “Гомельскі абласны Палац творчасці
дзяцей і моладзі”

# АД АЎТАРА

Вялікі дзякуй ўсім, хто дапамог з'явіцца на свет гэтаму зборніку. Маім родным і блізкім, маім сябрам, маім настаўнікам, выкладчыкам універсітэта імя Францыска Скарыны.

З удзячнасцю звяртаюся і да пісьменнікаў, творы якіх люблю і чытаю. Гэта Раіса Баравікова, Міхась Башлакоў, Рагнед Малахоўскі, Мікола Мятліцкі, Мікола Шабовіч. Гэта Іван Бісеў, Ніна Шклярава, Міхась Болсун, Алесь Бараноўскі.

*Ахвярую Ніне Шкляравай*

І я гляджу, гляджу Вам наўздагон.
Я так баюся зноўку памыліцца.
Вы ў цягніку. І цягне свет вагон.
Самотны дзень. Чытаю "Аканіцы":

Пад вокладкаю вершыкаў зашмат.
Я не сабе – я лёсу ахвярую.
І ветру, што спявае мне ў лад:
"...Вось ты адсніўся, я табе дарую!"

І я адсніла "твар у паліто",
Ды не адсніўся. Даў бы мне спачыну!
Сустрэну зранку мудрае "Рандо",
Быў верш найперш. А дзе ж яны,
мужчыны?

Быў верш найперш... Пішу Вам
наўздагон.
Вы ў цягніку і хай Вам шчасце сніцца...
Мяне вось цягне, цягне на паклон
За кожны верш у Вашых "Аканіцах"...

# ПТУШКІ ПАЛЕССЯ

А пакуль жыццё маё – іржышча,
Босая іду, як пад цягнік.
Табе добра, Жэня, ты – Янішчыц,
Я ж – табой забыты чарнавік.

*Ніна Шклярава*

Рыфмамі тчэцца тканіна,
Сум мой, адолены, знік.
Піша Яўгеніі Ніна
Вершык у свой чарнавік.
Жаль авалодаў. Ды ў краі
Хтосьці Жар-птушак пусціў:
Ніна, Яўгенія, Рая* –
Скарбы палескіх мясцін!
Шчасце са словаў збіраю,
Сэрцайка ведае зноў:
Вера нязломная – Рая,
Жэня – на ўздыху любоў.
Я наталіцца паспею,
Час валадарыць пачаў,
Ніна заўсёды – надзея,
Свецяць нябёсы ў вачах.
Вершам Радзіму вітаю,
Шчасцем, сабраным са слоў,
Ніна, Яўгенія, Рая –
Вера, Надзея, Любоў!

* Раіса Баравікова – мая любімая беларуская паэтэса.

* * *

А мы з табою з адной нядолі,
Са слоў "ніколі" збярэм наш сон.
На ўлонні лета, мы – дзеці болю,
Хаваем шчасце пад парасон.
Пад свой ружовы хаваю ўпотай
На цёплых вуснах тваю душу…
А ты пад чорным-ці адзіноту,
Ці так – хаваешся ад дажджу?

* * *

Дазволь мне з рэўнасці зноў узысці,
Маўчанне выдыхнуць сваё нямое….
Дай выпіць слёз і я прыйду  жывою,
Калі малітвы скончацца. Сыдзі
З гарачых зорак. Апраніся ў слова.
Складзі мне песню белых крылаў зноў,
Перакладзі на мовы ўсе любоў
І стань маёю некранутай мовай!

* * *

Зноў без пярсцёнка мае рукі,
Як крылы белыя ляжаць.
Дні без цябе з самотных гукаў
І вучаць плакаць і кахаць...
І вечным сцюжам, снам не верыць,
Ва ўсім жыве адзін падман!
Хай прыйдзе снег увосень белы –
Ён перапіша наш раман!

* * *

*Р. У.*

Выпіта поглядам шчасце –
Шчасце афарбавана,
Проста і так старанна ў колер Яго вачэй.
Вуснамі цішыні сны дапівае ранак,
Колькі зямной надзеі ў гэтай цішы цячэ!

Розныя бачым сны. Рознай жывем
мілосцю.
Лёгкіх сем тысяч дзён нас развядуць
навек.
Проста (нібы заўжды) Вы завітайце
ў госці –
У маім сэрцы сёння падае першы снег.

* * *

Стала зусім па-зямному
Восені подых лавіць.
Сэрца не верыла ў стоме –
Так немагчыма любіць:
Верыць, калі адбалела.
Плакаць, калі адышло…
Падае вэлюмам белым
Гэта празрыстае шкло…
Стала зусім па-зямному
Верыць – убачу зіму.
Восень сыходзіць на зломе
Самага светлага сну!

* * *

Белы снег ідзе, а ў хаце
Паміж снамі і жыццём
Коцік сядзе на халацік…
З незабыўным пачуццем
Памалюся ў час завеі,
Хай нас горшае міне.
Ты ўжо тут. Зачынім дзверы,
Станеш побач ля мяне.
Так салодка… Мо прысядзем
Зноў па памяці старой?
Белы снег ідзе, а ў хаце
Пахне водарнай вясной!

* * *

Што абяцана – берагу, жывой спантанай
мовай,
Шапчу малітву, з ёю мне лягчэй.
Ах, шчасце болю! Я магу стаць нашай верай
новай,
Перапісаць сваю тугу цяплом начэй!
"Ці лепш не дыхаць?" – зман.
Лепш роспачы не бачыць,
І не ўглядацца, не зыходзіць да разваг…
А мы зліваліся тады ў раку адну, не йначай,
Маўчаць і дыхаць нам было так лёгка
ў такт…

* * *

І верная, здавалася, старанная...
Ды толькі стала прыкраю і горкай.

Мой мілы, уцякаю п’ян-а-я
Тваёй халоднай доўгаю гаворкай.

Тулюся галавой да хвоі гонкай:
Ну, а ў яе душа – духмян-а-я!

* * *

Ён на  далонь шчакой прыляжа,
Я пацалункі разалью.
І шчасце пагукаю наша,
А ён – любоў маю…

* * *

Так безнадзейна гоіць
Верай, і слоў не просіць…
Вечную нашу споведзь
Слухае наша восень…
Шчасце пазычу веры-
Вуснамі смех стрымаю…
Зноўку адкрыю дзверы
Лёгка насустрач маю!

## ОДА АДНАВЕРЦУ

За лёгкімі крокамі збілася сэрца.
Знаходжу і тонка губляю цябе…
Далёка ісці па слядах Аднаверца!
Там ён незваротна і проста жыве.
І вечнасць люляе на аркушы белым,
І ціхай малітвай на вуснах дрыжыць.
Ён часта гаворыць "было" і "балела",
А з вуснаў нямое – "і сёння баліць"…
А я ж яго веру з нядолі збіраю,
Я мроюся толькі. Ці бачыць мяне?
Так часта казала "жыву" і "кахаю",
На вуснах нямое – "і гэта міне"…

* * *

Аблятае задумліва сад,
Жоўты яблык страсаецца з голля.
Да цябе, як да колішніх страт,
Не дайсці, не даплыць аніколі.

Сіні прыцемак дзень занясе,
Ён адыйдзе гаротны і босы.
Хтосьці яблыкі ноччу трасе,
І, як быццам, з душы маёй слёзы.

Сад здзівіўся са мной: як ты мог,
Пазбіраць іх, каб ела  другая.
Лягу стомлена ў складзены стог,
Да шчакі яблык свой прыціскаю.

* * *

Вось яны коцяцца, соладка-горкія,
Ягады роспачы. З рук на траву!
Неба ўглядаецца  зрэнкамі-зоркамі,
Як там за рэчкаю песні жывуць?
Песні, што роспаччу долу не коцяцца.
Вусны, што прагна п’юць цішыню!
Хтосьці пра шчасце сваё там клапоціцца,
Я ж тут пра вечнасць ля рэчкі пяю…

* * *

Чакаю. Не лічу я ўжо гадзіны.
Бязлітасны ідзе на сэрцы бой.
Цябе вяртаюць толькі ўспаміны
І цішыня становіцца табой!
І аркушы, як сны, ляцяць на смецце,
Каля дзвярэй так лёгка дыхаць. Час
Надыйдзе. Мне, здаецца, нашым
дзецям
Свет застанецца лепшым і – праз нас!

* * *

А ты стаіш пад ветразем без мар.
Халодным сонцам дзень самотны грэе,
Той, што зямлі пакінуў свой  цяжар,
Па-над вадой вятрыска ўсё мацнее.
Хай сцюжа  дзьме, астынуць пахі траў,
Ад болю нас нішто ўжо не ўратуе!
Палын на вуснах ўсё ў сябе ўвабраў,
Ты зноў глядзіш мне ў вочы і –
шкадуеш…

* * *

Другі, не лічаны мой год,
Шукае ветраны куточак.
І ты, стамлёны ад прыгод,
Прышлеш мне кветачку – званочак!
Мой нечакана-званы госць,
Табе я сэрца ахвярую
І нашай восені дарую
Я агнявую маладосць,
Цвіце званочак уначы.
Кранаецца таемных струнак,
Даруй самотны пацалунак!
Мой абяцаны, не маўчы!
Як апусцее мой куточак –
Мяне забудзе званы госць.
Калі завяне твой званочак –
Я зразумею ўсё, як ёсць!

* * *

Кахаў да самых тонкіх струнак,
А вось забыўся пра мяне...
Як неспазнаны пацалунак
Душу знямелы крык кране...
Я гаравала толькі  ў вершах:
– Не азірнуўся на бягу!
Хацела крыкнуць:
– Быў ты першым,
За кім не плакаць не магу...

* * *

Мяне выбачаеш? Вялікая справа
Кахаць, каб без слёз і без крыўд...
За веру  плачу я. І  бачу яскрава –
У спіну глядзіць краявід:
Аблокі,што  ў плямах салёнага болю,
З цікаўнаю поўняй і без…
Тваё выбачэнне – на зімняе  поле,
На вогненны восеньскі  лес!
Апошнія слёзы, халодныя слёзы
Аблокі страсуць цішыні.
Кахаў ты мяне пад бялюткай бярозай,
А зараз усеўся на пні…

* * *

Зноў абдымаеш леваю рукой,
А позіркам турбуеш далячынь.
Жадала быць тваёю дарагой,
Якой па ліку? Сёння не лічы.
А позірк твой халодны і бязмоўны.
Так млосна – я адна з тваіх жанчын.
Самотна мне, а ты, мой бездакорны,
Як лялька – без турбот і без
маршчын!

* * *

Нежаданыя стомяцца госці,
І адыйдуць, нядоўга чакаць.
Мне прымроіцца ў прыцемку хтосьці,
Хто захоча мяне цалаваць.

Можа прыйдзе сягоння на згубу,
А на болей даўно не прашу.
Падару я самотныя губы,
Ды, на жаль, прытрымаю душу!

Пакахаю чужога я ўпотай,
Маладосць у любосці ў даўгу.
І такая бярэ адзінота,
Што, здаецца, і жыць не магу.

* * *

Гарачы снег. Жывыя цені.
Падман! Было наадварот!
Сцяна пад колер летуценняў
І летуценніца, і кот
Глядзяць кіно. І стужка кажа
Пра доўгай памяці зліццё…
Мой снежань дні ў сумёты звяжа,
І пацалуе, як дзіцё.
Прачнуся я зімова-белай,
Самота стыне, як вада.
Маўчыць ліхтар. Жыццё знямела!
Той год не вернецца. Шкада…

* * *

І лёгкі крок, як з ложка ў новы дзень...
Халодных слоў не выдумляю, мілы.
А ты не бойся позіркаў людзей...
Чакала ноч і ноч цябе любіла,
Маўчала ў сне, хавала ранкі ўсе,
Ніхто не бачыў звычаю старога:
Тут забівалі веру пакрысе,
На папялішчы ўспаміналі Бога!

* * *

Сваю роспач у сэрцы схавае –
І адна не засне давідна.
Там у полымі грэх дапіваюць,
Не шкадуючы, Ён і Яна…

Гэтай ночы жыўу прысмак спакусны,
Нешта месяц нашэптваў вадзе…
Ён у сэрцы з другой і на вуснах
З ночы ў ноч закаханы ідзе…

## МАТЫЛЬ

Матылёк трапятаў у далоні,
Я на волю яго адпушчу,
Не жадаю каханнем палоніць
Я ні сэрца сваё, ні душу!

І матыль, разумеючы справу,
Паляцеў-паляцеў  ад мяне.
Разумею і я ўсё яскрава,
І пакрочу паціху ў журбе.

У свой ранак збялелы і росны,
Дзе стракозы снуюць ля ракі…
 – Не чапай, ты ўжо хлопец дарослы,
Не кранайся рукою шчакі.

* * *

І ціхі сон напісаны, як вяззю
Адвечна-мяккім росчыркам святла!
Я тут Яго палонніца, а Князю
Казалі ўсе:
– Палоніць спакваля…
Тут віўся попел – ночы той жаданне-
Світанак жаль у сэрцы лёгка звіў…
Прачнуўся Ён… Усмешкаю разліў
Між подыхамі нашымі каханне!

* * *

Тут аблятае лета маразамі,
Як шчасце паланянкі маладой,
Што боль зап'е калодзежнай вадой,
І просіць за Яго пад абразамі…
Там Ён ляціць, звівае ліставей,
Апошні бой за лесам дагарае…
Яна паветра ў грудзі набірае
І ўжо няма ні коней, ні людзей…

Пад шэпт малітвы ціха плачуць свечкі.
Усхліп Яго на вуснах задрыжыць…

І тчэ яна рукою цяжкай вечнасць,
Каб сэрца нерухомасці вучыць…

## НАРАДЖЭННЕ

Я кахаю цябе, як жанчына кахаць не павінна…
Колькі дзён незваротных я шчасце
пад сэрцам нашу.
Першародны наш грэх…разразае маю пупавіну…
З цеплынёю пяшчотнай кладзе мне на рукі Душу.

Я чакала без слёз. Адвучылася верыць ад болю,
Што прызнаеш Душу і што роднай яе назавеш…
Не крычала Душа – станавілася ціха маёю.
Ён мяне цалаваў і разумныя вочкі яе….

* * *

І ўсё крычаць бяскрылыя аб тым,
Што не яго ахоўніцаю стала.
Яму не быць спакусна-маладым
І разам з ёй не акунуцца ў сталасць.
Не дай ёй Бог паверыць паху траў –
Не для яе напой яны гатуюць.
Як водар зёлак ён любоў збіраў,
А зараз шчасця гэтага шкадуе.

# ЯНО

Не ўсё вяртаецца ў былое...
Так, замінае ў новым сне.
Кранае  нешта за жывое,
Курок узводзіць. А мяне
Турбуюць вераю ў каханне,
Ды я не веру з-за таго,
Што ў міг адзін яно падмане,
І я баюся за яго.

* * *

Усё ўжо выспела. А сэрца
Збалела прыкрасцю, на жаль,
І не паспела адагрэцца…
Накіну смутак,як вуаль,
Ці шалік. Так, было і годзе.
Адно – адчай. І тут – знявер.
Не зманіш львінае пародзе:
Каханы мой – драпежны звер.

## КАХАНАМУ

Ноч веры, каб пяшчотаю ўзрасці,
І на шляху каханага быць лёгкай,
Як той рамонак, што сваёй галоўкай
Крануўся, каб лягчэй было ісці
Каханаму, што верыць так ў Бога,
Што нарадзіўся вечнасць адмяраць,
Ды ісціну шляхамі абмяраць,
І да яе сыйсці з майго парога.

* * *

Садок у прыцемку ўздыхае
Навокал ціша – благадаць!
Кагосьці хтосьці тут чакае,
Ды мне навошта гэта знаць?
Ці новы дзень нясе надзею,
(Бо я з былога дня пішу).
Занадта сэрцам халадзею,
Калі гляджу ў сваю душу!

Дзе сон салодкі навявае,
Жыццё ўдваіх, любоў другая.

Дзе я баюся крыгай стаць,
І зноўку слухаю дыханне,
Ажно да самага світання.
І не магу пацалаваць…

## ГЭТА ІМЯ

І было толькі слова: "Надзея..."
Пачынала ўсміхацца – маўчаў.
Я з самотаю ў сэрца глядзела
І каханне шукала ў вачах.

Там, у родных правулках гукала,
Дзе ў акне даграла святло.
Я не ведала: з лісцем апала,
Адбалела імя, адышло…

Апасля адзіноцтва, шалёных
Слоў, адчаю, зімовых завей,
Каля хаты на здзіўленым клёне
Ліст шапоча бы ў сне: "Аляксей...".

* * *

На жаль, ні песенькі, ні птушкі...
Як плакала малая ў  сне!
Крылом надзеі Папялушка,
Кранаецца ўначы мяне.
Цалуе ў лоб, бярэ за шчокі.
Дае той вобраз берагчы,
Дзе ён, зямны і адзінокі,
Дачку люляе уначы...
Ды снег на час кладзецца белы,
Мяне ратуюць той бядой:
“Яму даўно ўжо адбалела!”
А я маўчу. Ды  Бог з табой...

* * *

Было каханне... Зноўку беспрыпынна
Заве глядзець на ноч і на людзей.
Святло шашы, ірдзее ў сне прыпынак –
Апошні свет разгубленых надзей...
На паліто не дождж – турботы пырскі.
А як без слёз, як быццам без душы!
Там ён стаіць (мужчына вельмі блізкі).
Пяшчотай расцякаюся. Шашы
Так мала. Так турботна мне бязмежна!
Кахаю і маўчу. І Бог бы з ім!
Тым помнікам, што дорыць сумны снежань,
Сягоння будзе ён! Там паглядзім...

## ОДА ЦІШЫНІ

Мы адчынілі пахі цішыні
Старой кватэры... Сэрцам не сталею.
Жыццём забытыя кахаць умеем,
Бо толькі  мы свой час перажылі!
Што, цішыня, маўчыш? І праўду кажаш:
Яно было – не вернецца! І зноў
Сном адзавецца першая любоў.
А ты хвіліны стужачкай павяжаш,
Пакінеш мне зімою на Раства,
Каб скроні зноў бязлітасна бялелі.
Мы разгайдаем час, нібы арэлі,
І ахвяруем цішы хараство...

* * *

Снег некрануты веры не кране.
Узыйдзе на усходзе помнік болю.
Заплача нехта – толькі ж у мяне
Не знойдзецца ласкавых слоў ніколі.
Здаецца мне, што плачу я сама.
Жыццё адно мне бачыцца мажлівым.
Зыходзяць дні, і новая зіма
Нам кідаецца ў ногі палахліва.
Дзень скончаны,  баі ідуць за ўздых.
Маўклівыя, ды з верай нябачнай
Мы сталі зноў цягнуцца да жывых
І свету чэрстваму за тое ўдзячны.

* * *

Ліхтары і памяць спапялёны,
Раз’яднаны, выпіты слязой,
Сум такі! Няма яму законаў!
А праклёны?
– Я была святой!
Не жыла. Халодным смехам песні
Разліваю памяці святло.
Так жыццё сканала напрадвесні.
А было ж, было яно! Было...

* * *

Без журбы ўсе адно спачуванне…
Ні аб чым больш мяне не папросіць.
Апасля адыходу кахання
Б'ецца ў шыбу апошняя восень.

Каля хаты з прагорклым туманам
Я стаю, пасталела ў чаканні.
Дайце выпіць самоту з падманам,
Каб яго пераблытаць з каханнем.

* * *

Ёсць толькі дождж і прыцемкі, і мары.
Здаюцца цені постаццю жывёл.
Мігціць ліхтар і дзінькае камарык...
"Як ты жывеш, маўклівы мой Анёл?"

І дзе твой боль таемны, дзе спакусы?
Твая усмешка? Так, не адкажу!
Адно – павер'я дрэннага баюся,
І за цябе! Зноў водсветы дажджу...

Дождж і растанне. Птушкай амярцвелай
Як цень лячу ля постацяў жывёл,
Ляжу ўначы, пяшчоты прагне цела…
Ёсць толькі дождж – самотны мой Анёл...

Ёсць толькі дождж...

* * *

Ты не стой ля хаты. Ранні
Быў світанак. Ціха дзверы
Адчыні. Мае каханне
Будзе жыць, пакуль я веру,
Што самотны мой, чаканы,
Тут, пад вокнамі. Імгненне –
І выходжу я на ганак,
Замест крылаў – летуценне.
Ледзьве шалік грэе плечы,
Калі сум бярэ, то годзе.
Я жыву. Ды кожны вечар
Ён да хаты не прыходзіць.
Мы чужымі сталі, дбаю
Я аб шчасці, долю клічу...
Зноўку веру я і кахаю,
А мяне Гаротнай лічаць...

* * *

З халоднай восенню пяю:
– Дажджы, даруйце мне турботу!
Зямную здзеклівасць маю
На памяць, з восенню употай
Да сэрца!
Плачу і таму
Гляджу на свет самотным вокам.
Мне ўсё здаецца зноў далёкім,
Бо я чужая  зноў яму!

* * *

А я з тваёй душою давідна,
Шалёная, бязмоўна размаўляю.
Ледзь чутнае: “Я зноў цябе кахаю,
Як і раней". Прывабіла сама,
Руку ўзяла, а зараз прыхінаю.
Стаю ўначы і плачу, як дзіця!
Як мала для жадання пачуцця
І веры, што і я ўсё ж  зямная!
Ды мне цябе, як жабрака шкада!
Я зноў бяруся сэрцам за высновы.
Ты хлопчыкам бязлітасна-вясновым,
Надзеяй быў, як трапіла бяда?
Як памяццю ты змог мяне параніць?
А ты маўчаў, мне бачыцца здалёк:
Прыходзіць толькі ранак на парог,
Прачнуся – і ў  мяне страляе памяць!

* * *

Было  няўтульна на зямлі.
А я чакала гэты вечар!
Былі снягамі матылі,
Была самотнаю сустрэча!
Апошні раз гарэў ліхтар,
Як за табой глядзелі цені,
Гадзін апошніх летуценні,
Зямнога вечара цяжар,
Душы апошнія пытанні,
Сняжынак ветраных крышталь.
Трымцела на вятры  каханне,
Нам не патрэбнае, на жаль!

* * *

У  кроках адзіноцтва цішыня.
Я дагараю. Друз увесь на смецце.
Мы з ім здранцвелыя, як тыя дзеці
Турботнага і ветранага дня.

Атручаныя, сонныя заўсёды.
Самотныя, як мокры парасон.
У немату кідаемся з нагоды,
І абжываем злосны рэгіён.

* * *

Світае. Моцна пахнуць кветкі.
Ідзе без літасці мой бой.
А мы,  ціхмяныя падлеткі,
На ўлонні свежасці сваёй!
І дзе ж чаканая сустрэча,
Што аддаляецца ад нас?
А я смяюся ў гэты вечар,
Нібыта ў свой апошні час.
І ўсё часцей я сустракаю
Сябе ў самоце забыцця.
Світае. Нечага чакаю.
А можа літасці ў жыцця?

## МРОІ

Не бывае, ніколі жанчыну
Не прымусіш без мары пражыць,
Ды душа патрабуе спачыну,
Толькі з марай ніяк не спачыць!

Сум і мроі я сэрцу дарую.
Зноўку кветкі-рамонкі ірву,
Гэту мару, як песню старую,
Ты запамятай – новай жыву.

Ды і ў шчасці бываюць пракосы.
Мне за шчасце спачыць – не бяда,
Што асыплюцца мроі, як росы,
Толькі сэрцайка вельмі шкада.

* * *

У люстэрку кахання зямнога
(Ёсць у крокаў свая далячынь)
Я убачу маўклівага Бога,
Бо самоту нашу на плячы!
Выпадкова сурочу я ўпотай
Лік святы, ад якога бягу!
Напаю абразок адзінотай,
А сябе наталіць не магу!

* * *

Зноў духмяныя прыцемкі
Крокі згубяць. Растанне…
Я з душы сваёй выцягну,
Каб не балела, каханне!
Не святая? Не моляцца
У пацалунках гарачых!
Лёгка раны не гояцца –
І не трэба іначай!

* * *

Вуліца гоіць. Аберуч я з любым,
Зноўку гуляю ў любосць.
Вусны да вуснаў, – сэрца галубіць,
Кружыць мяне маладосць!

Ведае кожны – ноччу прыгожай
Прыцемкам жар ахіне.
За агарожаю шэпт асцярожны:
«Любы, цалуй жа мяне».

Вочы заплюшчыла, доўга чакала,
Ведала б, дык не прыйшла!
Дыбкі прыўстала, пацалавала…
Ціхенька ў лоб, і пайшла…

* * *

Цеплыня сягоння ў хаце.
Без цябе сумую трошкі.
Я з табою буду кошкай,
Што сама з сабою ладзіць.

І гуляе там, дзе хоча.
Чуе кошка, без падману
Хтосьці там да хаты крочыць,
І збівае снег на ганак...

* * *

Спіць на каленях цёплых, як дзіця!
Ад цішыні пяшчотаю укрыю.
Свавольніца… Як шчасцем пахнуць крылы!
Як палымнеюць вусны ад зліцця
Жыцця са сном і лёгкай веры з болем!
Прачнуцца словы цёплыя ад сну…
– Калі табе я шчасце прынясу?...
Цалую так, каб не шаптаў: "Ніколі!"

## ПАРАСОН

Раскрыю парасон
Узбуджаная трошкі.
Я цэлы тыдзень сон
Гляджу на змятым ложку, –
Як першы снег бяжыць
У ноч на свет вакзала,
Сняжынкаю блішчыць
Імя, што спазнавала!
Чыё? Глытаю зноў
Шматкроп'е. Кажаш смела,
Што гэта лёс любоў
Кладзе на аркуш белы!
– Пячатка для ахвяр!
Смяешся ў цемры. Дзе ты?
Ніхто не цалаваў
Каханку як паэта.
Цягнік халодны крык
Кідае ў твар перону.
Так хтосьці мілы знік
У вусені вагонаў.
Зноў дождж і парасон...
Пяшчотным быў, як кошка –
Вясновы позні сон
І снег пярын на ложку.

## ЦАЛУЮ

З нямым жаданнем я хаджу
да сонца ў госці.
Цалую кропелькі дажджу
і неба просінь.
Цалую спелы ліставей,
што сэрца просіць.
Каб неба дыхала бліжэй –
цалую восень.
Сняжынку вуснамі лаўлю
з халодным болем,
Што Вас краналася. Люблю.
Нічога болей...

## ЗМЕСТ

**Рэдактар**

**Ніна Шклярава** – член СПБ, кіраўнік школы
“Малады літаратар” УА “Гомельскі абласны
Палац творчасці дзяцей і моладзі”

**Рэдакцыйны савет**

**Уладзімір Гаўрыловіч** – старшыня
ГА СП Беларусі
**Валерый Вятошкін** – паэт,
аўтар кнігі “Холсты небес”
**Александрына Зубец** – дырэктар Гомельскай
спецыялізаванай Славянскай бібліятэкі
**Алесь Бараноўскі** – выпускнік школы “Малады
літаратар”, член СПБ.
**Іна Азарава** – выкладчык
ГГУ імя Ф. Скарыны

Бібліятэчка школы
“***Малады літаратар***”
заснавана ў 2010 годзе пры спонсарскай
падтрымцы паэта Валерыя Вятошкіна
і ГА Саюза пісьменнікаў Беларусі.

